

# Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ — БЕЦЕ МЯЧАМІ! НЕ ДАВАЙЦЕ ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

Максім Багдановіч (1891-1991)

№ 387 Люты 1992
Год. выд. XLI

BIELARUS / BELARUSAN Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.50


## АБ СТАНОВІШЧЫ НА БЕЛАРУСІ

Цяпер, калі на Беларусі крута ўгару пайшла інфляцыя, моцна павысіліся цэны і амаль зусім зьнiклі неабходныя тавары, кожны задумаецца — што чакае нашае грамадзтва, у чым прычына зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню і дзе выхад.

Першае, што трэба адзначыць, насуперак пракамуністычнай прапагандзе — на Беларусі ўся ўлада (ад Вярхоўнага Савету і Савету Міністраў да Сельсавету) знаходзіцца ў руках былой камуністычнай наменклятуры. Ніякіх пераменаў у сфэры ўлады ў нас не адбылося. Камуністы пасьля жніўня 1991 г. згубілі свае ідэалягічныя стуктуры, але ўлада засталася ў іхніх наменклятурных функцыянэраў. Таму эканамічная і сацыяльная палітыка на Беларусі не зьмянілася, ніякіх рынычных рэформаў не назіраецца, ніякага пераходу да рынку няма, захавалася гаспадарчая структура адміністрацыйна-камандавай сыстэмы.

Кіруючыя начальнікі на Беларусі прадоўжваюць палітыку Гарбачова, які хацеў злучыць няздучальнае — камунізм з рынкам і захаваць уладу КПСС. На чым і «пагарэў».

Разумныя эканамісты ведаюць, што нельга ў адміністрацыйна-дзяржаўную эканамічную сыстэму ўводзіць рыначныя структуры. Павінна быць альбо адно, альбо другое. Альбо дзяржаўна-адміністрацыйная эканоміка пад прымусам, што вядзе да стагнацыі, ГУЛАГу і выраджэньня грамадзтва, альбо рынычная эканоміка, якая прадвызначае разьвіцьцё дэмакратыі. Нельга спалучаць тое, што не спалучаецца. Інакш пачынаецца неабмежаваная спэкуляцыя, узрастае ценявая эканоміка, інфляцыя, зьнікаюць тавары, спыняецца рост вытворчасьці. Падзеі, якія мы назіраем ад 1987 году.

Чаму гэтак атрымваецца? Паколькі ня вырашаныя пытаньні з уласнасьцю, ня прынятыя асноўныя рыначныя законы аб свабодзе прадпрыймальніцтва, свабодзе куплі-прадажы, канкурэнцыі — рыначныя структуры ў адміністрацыйнай сыстэме (кааператывы, біржы, сумесныя і малыя прадпрыемствы і г.д.)ператвараюцца ў нарости на целе дзяржаўнай эканомікі, якія перамолваюць рэсурсы, ператвараюць безнаяўныя грошы ў наяўныя і гэтым самым садзейнічаюць інфляцыі, а ўвядзеньнем сьпекулятыўных (двайных) цэнаў на дзяржаўную прадукцыю, спрыяюць зьнікненьню тавараў з магазынаў і разьвіцьцю ценявой дзейнасьці. Адзін і той жа тавар перапрадаецца шматкроць па штораз вышэйшых цэнах, ня робячы ніякага руху. Рухаюцца толькі пустыя грошы.

Чаму ж дзяржава не спыніць гэтага? А дзеля таго, што і ў дзяржаўнай уладзе, і ў дзяржаўнай і ў ценявой эканоміцы дзейнічаюць асобы аднаго гатунку — «товарищи». Яны стварылі структуру крымінальнай эканомікі. Яны выкарыстоўваюць дзяржаўна-эканамічную ўладу, і ператвараюць агульнанацыянальнае багацьце ў сваё ўласнае. Ідзе ценявая, «дзікая» прыватызацыя. І праводзяць яе «антырыначнікі», зрабіўшы зь дзяржавы дойную карову. Таму яны супраць рыначных рэформаў (хоць і гавораць пра рынак), бо тады прыдзецца дзяліцца з усім народам. Яны не маюць канцэпцыі дзяржаўнай палітыкі Беларусі, не дбаюць пра ўмацаваньне суверэнітэту, пра абарону нашай эканомікі ад сыравіннага шантажу Расеі, не бароняць Беларусь ад экспансіі чужых грошай — пустых рублёў. Ім абыякавыя нацыянальныя інтарэсы Бацькаўшчыны і лёс народу.

Ня маючы пляну разьвіцьця беларускай дзяржавы, яны сьвядома прывязалі Беларусь да хворай расейскай эканомікі, да авантурніцкай палітыкі Ельцына. У выніку мы не пазьбеглі «лібэралізацыі» цэнаў, рэзкага зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню, хоць Беларусь мела ўсе магчымасьці ад гэтых хваробаў ухіліцца, калі б праводзіла палітыку сувэрэннай дзяржавы ў эканоміцы. Яны ігнаруюць відавочную існасьць — неабходнасьць умацаваньня незалежнасьці.

Што ў такіх варунках рабіць? Трэба адхіліць былую наменклятуру ад улады. Распусьціць антыдэмакратычны недзеяздольны Вярхоўны Савет і правесьці новыя выбары на аснове дэмакратычнага закону. Новы прафэсыйны парлямэнт (Сойм) сфармуе ўрад народнага даверу, які і правядзе рэформы. Цяперашні наменклятурны Вярхоўны Савет і Урад не ў стане іх правесьці. У Вярхоўным Савеце сядзяць антырыначнікі. Бяссэнсоўна прапаноўваць ім прагрэсіўныя эканамічныя праграмы і заканапраекты. Яны іх не прымуць. Апазіцыя БНФ ужо падавала ім дзесяткі заканапраектаў. І людзі бачылі, як кансерватаўная большасьць Вярхоўнага Савету іх усьпрымала. Нечарговыя выбары — адзіны выхад.

Рашэньне распусьціць цяперашні Вярхоўны Савет ды правесьці новыя выбары можа прыняць сам народ шляхам рэфэрэндуму. Рэфэрэндум — гэта таксама адзіны клапан выхаду для збанкрутаванага Вярхоўнага Савету. Аднак «палітыкі» ад наменклятуры далі адмоўнае заключэньне Цэнтральнай выбарчай камісіі аб неабходнасьці правядзеньня рэфэрэндуму. Яны яшчэ не ведаюць, што яны самазабойцы, бо думаюць, што зацягнуць і выйграюць час, паставяць на калені беларускі народ, які, спакутваўшыся, зноў пакліча камуністаў да жорсткай рукі, да таталітарызму. Якія ілюзіі! А тым часам нішчыцца нашая Беларусь, рабуюць наш народ, бяднеюць людзі. Кожны дзень існаваньня гэтага Вярхоўнага Савету небясьпечны для нашага грамадзтва. Таму галоўнае заданьне цяпер — рэфэрэндум. Шлях да нечарговых выбараў.

**Зянон Пазьняк,**
**Народны дэпутат Беларусі**



*«Праэкт эталону гэрбу Рэспублікі Беларусь, распрацаванага групай мастакоў у адпаведнасьці з законамі гэральдыкі і гістарычнымі традыцыямі беларускага народу...*

*На чырвоным фоне — срэбны вершнік на белым кані. Шчыт вершніка ўпрыгожаны зала-тым шасьціканцовым крыжам.»*

**Паводля ЛіМу, 22 ліст, 1991 г.)**

## РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ САКРАТАРЫЯТ ФІНАНСАЎ

### «ДАР САКАВІКА»

Збор дабраахвотных грашовых ахвяраваньняў на «Дар Сакавіка» праводзіцца сярод суродзічаў ад часу заканчэньня ІІ-й Сусьветнай вайны. Летась у гэткім звароце пісалася: «Дзякуючы працы лепшых сыноў беларускай эміграцыі, ідэя незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі не замерла. Рада БНР на эміграцыі прадаўжае працу за ідэю Незалежнай Беларусі».

І вось мы дачакаліся, што ў 1991 годзе Беларусь фармальна сталася незалежнай, прызнанай больш як 40 дзяржавамі сьвету, у тым ліку Злучанымі Штатамі Амэрыкі.

У выніку развалу камуністычнай імпэрыі ейныя народы пачынаюць станавіцца на свой нацыянальны фундамент. Але ўсе мы добра ведаем, што да запраўднай незалежнай і дэмакратычнай Беларусі яшчэ шлях марудны, дарога крывая.

У цяперашнім Вярхоўным Савеце, а таксама ва ўрадзе Рэспублікі Беларусь, шмат галоўных пазыцыяў займаюць камуністы, якія ўсімі спосабамі перашкаджаюць нацыянальнай адбудове Беларусі.

У гэткіх абставінах мы ня маем права, злажыўшы рукі, сядзець і нічога не рабіць. Перад намі шмат працы і многа абавязкаў.

Паважаны Суродзічы, просьба да Вас: у меры Вашых магчымасьцяў далучыцца да ахвярадаўцаў на «Дар Сакавіка», каб дзякуючы Вашай ахвярнасьці можна было даваць дапамогу на найбольш патрэбныя бягучыя справы, зьвязаныя са змаганьнем Беларусі за выхад да сапраўднай Незалежнасьці й Свабоды.

Перашліце сваю ахвяру на ніжэй пададны адрас Скарбніка Рады БНР.

Адрас:
Vitaly Kazan
183 Lawn Ave.
Stamford, Conn. 06902.

*The Byelorussian-American Association, Inc.*
*and*
*The Byelorussian-American Youth Organization request the honor of your presence at a banquet and concert commemorating the 74th Anniversary of the Proclamation of Byelorussian Independence on Sunday, March 29th, 1992 at 12:30 p.m.*
*The Regency Ballroom at the Hyatt Regency, Two Albany Street, New Brunswick, New Jersey*
*Preceding the Banquet Divine Liturgy at 10:00 a.m.*
*St. Mary of Zyrovicy Byelorussian Autocephalic Orthodox Church 9 River Road, Higland Park, New Jersey*
*R.S.V.P. by March 15th, $25.00 per Adult*
*For information:*
*Mr. George Kipel (201) 501-8242*
*Mr. Nick Bachar (718) 479-0907*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПРАМОВА

## сп. Міхася Кукабакі на 2-м зьезьдзе Аб'яднанай Дэмакратычнай Партыі Беларусі, які адбыўся ў Менску 9-10 лістапада 1991 г.

**(ВЫТРЫМКІ)**

Галоўная слабасьць нашага дэмакратычнага руху — адсутнасьць радыкальных праграмаў і радыкальных ідэяў. Я маю на ўвазе ня толькі Беларусь, але й Расею і іншыя рэгіёны. У пагоні за галасамі выбаршчыкаў амаль усе лідэры палітычных партыяў і плыняў ідуць у хвасьце масавай сьведамасьці. Яны баццам забываюцца, ці ня хочуць памятаць, што дзесяцігодзьдзямі сьведамасьць нашага народу атручвалася дэзынфармацыяй. Масавай сьведамасьці народу навязваліся памылковыя стэрэатыпы. І абавязак інтэлігента разбураць іх, а не культываваць ва ўгоду каньюнктуры.

Сёньня, як ніколі, нам патрэбныя радыкальныя ідэі і крокі ў эканоміцы.

У чым-жа я бачу радыкальную развязку? Назаву толькі дзьве «чорныя дзіркі» ў нашай эканоміцы, куды ўсмоктваецца і бясьследна зьнікае каля 70% нашае грамадзкае працы.

Усе знаюць, што на КДБ затрачваюцца гіганцкія нікім яшчэ дакладна не падлічаныя сродкі, Усе ведаюць, што з мамэнту ўзьнікненьня і па сёньняшні дзень ад КДБ — адно шкода ня толькі нашаму народу, але й і ўсяму сьвету. Дык штосьці перашкаджае нашым дэпутатам паставіць пытаньне не аб рэарганізацыі КДБ, а аб ліквідацыі яго як дзяржаўнага інстытуту. Трэба заканадаўча паставіць пытаньне аб забароне на прафэсію разьведчыка-шпіёна, як забароненыя «прафэсіі» зладзеяў, рабаўнікоў, гвалтаўнікоў і г.д. Калі-б хто сумняваўся, ці хоча народ мець арганізацыю падобную да КДБ, я прапанаваў-бы правесьці галасаваньне рублём, а не падыманьнем рук. І можна быць упэўненым, што ні адзін нармальны чалавек не аддасьць сёньня дабраахвотна свае рублі на аплату падслухоўваньня і падглядваньня ў амэрыканскія ці швэдзкія замочныя шчыліны. Гэтак зачынілася-б адна важная «чорная дзіра». Другая дзіра буйнейшыя, а дзеля гэтага і дзейнічаць трэба было-б гэтак-жа радыкальна.

Дзясяткамі гадоў нашаму народу навязваўся вобраз ворага ў асобе ЗША і іншых краёў Захаду. І гэтымі «ворагамі» апраўдвалася непамернае разрастаньне ваенна-прамысловага комплексу і бязьбеднае жыцьцё безьлічы палкоўнікаў і генэралаў. Сёньня гэты міф пакрысе расьсейваецца, дзеля гэтага і прыгадаў я радыкала А. Сахарава.

Дык што-ж перашкаджае нам паставіць пытаньне радыкальна?

1. Спыніць канвэеры ўсіх заводаў, што вырабляюць зброю.
2. «Замарозіць» усякую ваенную дзейнасьць (манэўры і г.д.)
3. Скасаваць вайсковую службу.
4. Абвесьціць сябе бязьядзернай дзяржавай.
5. Ліквідаваць Міністэрства «Абароны».
6. Прыняць статус «Аб сталым нэўтралітэце».

І ўсё зрабіць у аднабаковым парадку, бяз усякае аглядкі на ЗША і іншыя краіны.

Прызнамся, калі на гэткія рэформы не захоча пайсьці Расея дзеля сваіх мацнейшых шавіністычных, вялікадзяржаўных забабонаў, дык мы, у Беларусі, поўнасьцяй можам пачаць ужыцьцяўляць падобны плян.

Але спачатку давайце яго ўключым у праграму хоць аднае партыі. Давайце хоць-бы выкажам ідэю перад нашым народам. Калі-ж хтосьці сумляецца ў ягонай волі, можна прагаласаваць рублём. Запрапануем фармаваць сродкі для Міністэрства абароны за кошт дабраахвотных ахвяраваньняў. Што зьбярэм — гэта і будзе тэй «дастатковасьцю», якую зажадае наш народ. Не генэралы павінны пастанаўляць за нас, колькі іх трэба каб сядзелі на нашым карку, а мы, народ, маем права пастанаўляць, колькі нам трэба карміць генэралаў.

Я ўважаю, што палітыка запраўды народнай партыі павінна грунтавацца на пастуляце: мінімум свабоды дзяржаве — максымум свабоды асобе. Гэта значыць: найважнейшыя пытаньні павінны развязвацца ня гэтулькі прадстаўнічымі органамі «ад імя народу», але самым народам у асобе кожнага грамадзяніна (як у Швэцыі). Гэта і ёсьць дэмакратыя.

## СЬВЯТА УКРАІНСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Пад кіраўніцтвам Украінскага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, былі адзначаныя ў Вашынгтоне 74-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Украіны. Урачыстасьць распачалася банкетам, які быў наладжаны ў будынку Рэйборна (адным з будынкаў амэрыканскага Кангрэсу) 22-га студзеня 1992 году і спонсарамі якога былі 7 кангрэсманаў і 2 сэнатары. Ад Беларусаў на ўрачыстасьць былі запрошаныя старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі сп. Расьціслаў Завістовіч і сп-ня Іраіда Завістовіч.

З прывітальнымі прамовамі на банкеце выступілі кагрэсман Дан Рытгэр, сэнатары Дэнніс Дэ Кансыні, Карл Лэвін, Алфонс Дамато і Фрэнк А. Лаўтэнбэрг. З галоўнай і вельмі цікавай прамовай выступіў доктар Сьцяпан Хмара, дэпутат украінскае Вярхоўнае Рады ў Кіеве. Доктар Хмара, які некалькі разоў сядзеў у турме за незалежніцкія перакананьні нават у час гэтак званае перабудовы, дзякаваў Амэрыцы, у прыватнасьці амэрыканскаму Кангрэсу, за падтрымку ў барацьбе за незалежнасьць Украіны, якая, нарэшце, здабыла яе 24-га жніўня 1991 году. У прыватнай гутарцы сп. Хмара вельмі цёпла гаварыў пра кіраўнікоў Беларускага Народнага Фронту, а сп. Зянона Пазьняка ён назваў вялікім прыяцелем Украіны й шчырым беларускім патрыётам, якім Беларусы павінны ганарыцца.

**Р. З.**

# АМЭРЫКАНСКІ КОНСУЛ ДЛЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Новапрызначаны амэрыканскі консул для Беларусі Аляксандар Мееровіч, перад сваім выездам у Менск, наведаў Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі 18 студзеня 1992 году. Сп. Мееровіч цікавіўся ўсім, што тычылася Беларусі. У амаль шасьцігадзіннай гутарцы ён атрымаў вялікую колькасьць інфармацыі эканамічнага, палітычнага й побытавага характару пра Беларусь. Трэба прызнаць, што сп. Мееровіч нядрэнна арыентуецца ў праўдзівай беларускай гісторыі, як апошніх часоў, так і часоў сярэднявечча.

Пры другім спатканьні 24-га студзеня 1992 г., на гэты раз у Дзяржаўным Дэпартамэнце ў Вашынгтоне, аўтар гэтых радкоў падараваў новаму консулу кнігу ў ангельскай мове «Беларуская Дзяржаўнасьць», выданую пад рэдакцыяй спадарства Кіпеляў, і дзьве брашуры — выступленьне Міністра замежных спраў Беларусі П. Краўчанкі ў Аб'еднаных Нацыях і «Кароткі Агляд Гісторыі Беларусі» П. Рагача. З удзячнасьцю трэба адзначыць, што ўсе гэтыя матэр'ялы былі прысланыя аўтару гэтых радкоў тэрміноваю поштаю сп. Вітаўтам Кіпелям, дырэктарам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Сп. Мееровіч і іншыя консулярныя працаўнікі, Джан Форд і Джан Марк Памэршайм, знаходзяцца цяпер у Менску для пошукаў адпаведнага памешканьня для Амэрыканскай Амбасады.

**Расьціслаў Завістовіч**

# ПАВАЖАНЫЯ СПАДАРЫ!

Здымачная група студыі «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм» падступае да стварэньня дакументальнага фільму «Забытыя гукі», прысвечанага кампазытарам беларускага замежжа. Імёны Міколы Куліковіча-Шчаглова, Міколы Равенскага, Алеся Карповіча, Эльзы Зубковіч вядомыя вам і амаль невядомыя тут, на Беларусі.

Гэты фільм — адзін зь першых подступаў у беларускай кінадакумэнталістыцы (калі не лічыць ленты пра Міхася Забэйду-Суміцкага) да жыцьця і творчасьці нашых суайчыньнікаў за мяжой.

Але справа гэтая няпростая нават у варунках Незалежнай Беларусі — не стае дакумэнтаў, фактаў, успамінаў, грамзапісаў іхных твораў, амаль немагчыма знайсьці сьведак даваеннага і ваеннага (акупацыйнага) часу, а тым больш жыцьця беларусаў за мяжой. Таму без вашай дапамогі нам не абыйсьціся.

Адгукніцеся, хто мае матэрыялы да гэтай тэмы. Будзем удзячныя за вашыя лісты й дакумэнты, будзем удзячныя і за фінансавую дапамогу, бо пры нестабільнасьці сёньняшняга беларускага эканамічнага жыцьця нам немагчыма трапіць у Лёндан, у бібліятэку й музей імя Францішка Скарыны, дзе захоўваецца архіў Куліковіча-Шчаглова і жыве дасьледчык яго творчасьці Гай Пікарда; у бельгійскі горад Лювэн, дзе жыў і працаваў Мікола Равенскі, дзе ён пахаваны; не кажучы ўжо пра Амэрыку, зь якой зьвязана жыцьцё нашых выдатных суайчыньнікаў.

**Уладзімір Мароз, аўтар сцэнарыя**
**Міхась Ждановскі, кінарэжысёр**
**Алег Паўлаў, прадусэр**
**Адрас: 220103, Беларусь, г. Менск, вул. К. Каліноўскага, 99-18, А. Паўлаў**

# КДБ ХОЧА СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ З ЭМІГРАЦЫЯЙ

Генэрал-маёр Эдуард Шыркоўскі займае становішча старшыні Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі ад сьнежня 1990 году. Як падавала «Зьвязда» (9.XII.90), «Эдуард Івановіч любіць вершы Багдановіча, гаворыць па-беларуску». Карэспандэнту БЕЛТА старшыня КДБ Шыркоўскі сказаў, што «ўпраўленьне 'З', якое было заклікана стаяць на варце канстытуцыйнага ладу, ня выключаючы вывучэньня грамадзкіх фарміраваньняў, іх удзелу ў палітычнай барацьбе, мы расфарміроўваем. Нас ня цікавяць больш мітынгі, сходы, канфэрэнцыі». («Гол. Радз.», 28.XI. 91)

У духу гэтага выказваньня газэта «Набат» (№ 37, сьнежань 1991) зьмясьціла вялікі матэр'ял пад заг. «КДБ і эміграцыя: паварот да даверу». У ім ген. Шыркоўскі і тры ягоныя супрацоўнікі гавораць аб тым, што да бальшыні эмігрантаў ніхто ў Беларусі ніякіх прэтэнзіяў ня мае. Вось прыяжджалі-ж нядаўна Запруднік і іншыя, і ніхто да іх прэтэнзіяў ня меў. Можа прыехаць і Мярляк, калі хоча: «удзелу ў расстрэлах за ім няма». А некаторыя, кажа Шыркоўскі, і самі не паедуць... На эміграцыі старшыня КДБ бачыць ці мала талентаў: Кастусь Акула, Масей Сяднёў. У нядаўным мінулым, праўда, дапушчаліся памылкі. Прыкладам, пра В. Мельяновіча і а. А. Надсона пісалася хлусьня й паклёпы ў савецкіх сродках інфармацыі, — прызналіся кіраўнікі КДБ. Але такія часы ўжо мінулі. Цяпер трэба супрацоўнічаць, а можна нават і супольны камітэт стварыць, у які-б увайшлі прадстаўнікі ад эміграцыі, ад КДБ, ад ўраду Беларусі й ад Вярхоўнага Савету.

Пад уражаньнем ад апошніх падзеяў на тэрыторыі нядаўнага Савецкага Саюзу сёй-той можа й задумацца над выказваньнямі генэрал-маёра Шыркоўскага. Але, калі хто чытае ў дадатак да «Набату» і «Голасу Радзімы» яшчэ іншыя матэр'ялы, дык таму будзе цяжэй даваць веры ў запэўненьні старшыні КДБ.

Вось у верасьні летась у газэце «Літаратура і Мастацтва» (27.IX) было апублікаванае «інтэрв'ю, якое не адбылося» пад загалоўкам «Я хацеў-бы спытаць у Вас, спадар Шыркоўскі», Карэспандэнт ЛіМу Міхась Замскі ўздымае вельмі надзённыя пытаньні, на якія адказу мы яшчэ ня чулі: ці карыстаецца КДБ усё ячшэ сэксотамі? Ці падслухоўваюцца тэлефоны? Ці чытаюцца чужыя лісты? Якія сувязі былі ў папярэдніка КДБ з расстрэламі ў Курапатах? Ці выступіў Эдуард Іванавіч Шыркоўскі з кампартыі і ці парваў з камуністычнай ідэялёгіяй? Ці доўга будзе стаяць яшчэ перад будынкам КДБ у Менску бюст Ф. Дзяржынскага?

Да матэр'ялу М. Замскага дадзены ў канцы пост скрыптум пра заяву пракурора БССР Тарнаўскага ў ВС БССР пасьля путчу ў жнівені летась. Вось што там сказана: «Абвяргаючы абвінавачаньні ў свой адрас за няпэўную пазыцыю ў час дзяржаўнага перавароту, пракурор прывёў і такі факт: 20 жніўня яму званілі з Камітэту дзяржаўнай бясьпекі і Міністэрства ўнутраных справаў рэспублікі, каб ён забараніў правядзеньне антыпутчаўскага мітынгу на плошчы імя Леніна ў Мінску. 'Прапанову' гэтую Г. Тарнаўскі, па яго словах, праігнараваў».

А спадар Шыркоўскі кажа нам, што ягоны орган — КДБ — мітынгамі больш ня цікавіцца...

## ДАРАГІЯ КАЛЕГІ!
## СЯБРЫ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ!
## НАШЫЯ ЗАРУБЕЖНЫЯ СУАЙЧЫНЬНІКІ!

У сям'ю вольных народаў Эўропы ўваходзіць сёньня сувэрэнная Рэспубліка Беларусь!

На працягу стагодзьдзяў Беларусь дала сьвету больш, чым сьвет ведае пра яе!

Калі Вы хочаце адкрыць для сябе наш дзівосны край, хочаце ведаць яго гісторыю і цяперашняе жыцьцё, спазнаць душу народу, яго мову — прыязджайце ў Беларусь!

Мы звяртаемся да навукоўцаў, студэнтаў, аматараў беларускага пісьменства, да дзяцей і ўнукаў нашых суайчыннікаў за мяжой, дзелавых людзей, да ўсіх тых, хто жадае вывучаць беларускую мову, літаратуру, мастацтва, культуру: прыязджайце на Беларусь! Гэта будзе Ваш асабісты ўклад ў нацыянальнае адраджэньне яе народу, у вяртаньне Беларусі ў Эўрапэйскае садружжа, ва ўзьняцьцё міжнароднага прэстыжу беларускай мовы.

Для ўсіх тых, хто цікавіцца мовай, літаратурай, культурай незалежнай Беларусі, ужо ў другі раз летам адчыніць свае дзьверы Міжнародная школа беларускай мовы, літаратуры і культуры (МШБ). Навучаньне ў ёй, пражыцьцё ў горадзе Менску, харчаваньне і культурна-экскурсыйнае абслугоўваньне — адно з самых танных сярод школ падобнага тыпу ў сьвеце.

У 1992 годзе Міжнародная школа беларусістыкі праводзіць летнюю сэсію ад 20 жніўня да 9 верасьня. У час яе будзе праведзеная навуковая канфэрэнцыя «Адраджэньне нацыянальнай самасьвядомасьці беларускага народу». На заканчэньне навукі ў МШБ адбудзецца сымпозіюм беларусістаў сьвету на тэму: «Творчая спадчына Я. Купалы і Я. Коласа ў кантэксьце духоўнай культуры народаў сьвету (да 110 гадавіны нараджэньня класікаў беларускай літаратуры)». У сувязі з гэтым просім наперад, да 1 чэрвеня, падаць тэмы сваіх дакладаў і паведамленьняў. Заняткі ў МШБ будуць весьціся з улікам веданьня беларускай мовы: у пачатковай групе, з паглыбленым навучаньнем і па індывідуальнай праграме. Выкладчыкамі станучь вядучыя вучоныя Беларусі.

Кошт навучаньня, пражываньня, харчаваньня, культурнага і экскурсыйнага абслугоўваньня такі: для студэнтаў з славянскіх краінаў — 75 амэрыканскіх даляраў, з іншых зарубежных краінаў — 150 даляраў, для навукоўцаў, тых, хто працуе, — адпаведна 140 і 280. Дарога ў Менск і назад — за ўласны кошт.

Калі Вы хочаце ісці ў нагу з часам — прыязджайце ў Беларусь!

Калі Вы хочаце стаць багацейшымі яшчэ на адну мову, культуру — прыязджайце ў Беларусь!

Калі Вы хочаце адкрыць для сябе яшчэ адзін цудоўны край — прыязджайце ў Беларусь!

Калі Вы хочаце, каб Вашыя дзеці і ўнукі ўмацавалі сваё веданьне роднай беларускай мовы, пабывалі на зямлі сваіх продкаў, — пасылайце іх у Беларусь!

Будзем рады вітаць Вас у старадаўнім Менску, між пушчанскіх лясоў і блакітных азёраў! Запрашаем! Чакаем!

Наш адрас:
Беларусь, 220088, Менск-88,
вул. Захарава, 59, МШБ,
Тэлефакс — 0172-26-59-40;
Тэлекс — 25-23-85 ГАММА;
Тэлефон — 36-59-16

**Міжнародная школа беларусістаў**
**Міжнародны камітэт беларусістаў**

## БЕЛАРУСКІЯ НАВІНЫ — БЮЛЕТЭНЬ БЕЛАРУСКАГА ДЭМАКРАТЫЧНАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ

У простай прапорцыі да хутказьменных палітычных падзеяў на Бацькаўшчыне знаходзіцца і беларускі палітычны друк: новыя часапісы, бюлетэні ды газэты паўстаюць ды зьнікаюць. Ахапіць новы беларускі пэрыядычны друк, жывучы ў дыяспары, прост немагчыма. Не памагае знаёмству з новым друкам і ягоная нерэгулярнасьць ды нядбалы кальпартаж.

У вялікай хвалі ўздыму новага пэрыядычнага друку, прайшло для дыяспары мала заўважаным зьяўленьне новага пэрыёдыку ў Беластоку — «Бюлетэня Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня — Беларускія Навіны». Бюлетэнь ськіваваны найперш на шырокага чытача Беласточчыны, але цімала старонак у гэтым пэрыёдыку адведзена і агульнаму беларускаму палітычнаму руху, беларускай палітычнай гісторыі ды новаму дасьледчаму матар'ялу.

Беластоцкая частка часапісу — абшырная палітычная інфармацыя ды крытычны аналіз падзеяў на Беласточчыне, у якіх якраз і выдавец часапісу, Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне, адыграе ролю. Надзвычай важна ў гэтай частцы тое, што вядучыя лідэры беларускага палітычнага жыцьця на Беласточчыне могуць крытычна разглядаць ды рэальна плянаваць сваю дзейнасьць, хоць паўсюдныя беларускія грамадзкія праблемы ня чужыя і беластаччанам.

Часапіс салідарызуе поўнасьцю з палітычнымі ідэямі Беларускага Народнага Фронту і друкуе шмат важнага й цікавага матар'ялу аб падзеях на Беларусі, эканамічным стане й магчымым разьвіцьці рэспублікі Беларусь ды зьмяшчае агляды беларускі ў друку.

Вялікае ўвагі заслугоўваюць новыя дасьледчыя матар'ялы як прыкладам, Яўгена Міраноўіча — «Беларускія партыі ў Другой Рэчыпаспалітай», Алега Латышонка — «Беласточчына й народзіны беларускае думкі» ды Славаміра Іванюка — «Беларусы Беласточчыны ў парлямэнцкіх выбарах у міжваеннай Польшчы». Гэты матар'ял — выдатны паказьнік узмацненьня навукова-дасьледчае думкі на Беласточчыне.

Дасюль выйшла тры нумары часапісу: нр I, май 1990, нр. 2, ліпень 1991, нр. 3, студзень 1992 году. Рэдагавалі часапіс: першыя два нумары — Ян Максімюк, а трэйці выпуск выйшаў пад рэдактарствам Аляксандра Максімюка.

Адрас часапісу: 15-950 Беласток, вул. Сураская I.

Хочацца думаць, што гэты бясспрэчна зьмястоўны і важны, часапіс будзе выходзіць і далей.

**В. З.**

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА Ў САЎТ-РЫВЭРЫ

Творы беларуска-амэрыканскіх мастакоў і народнага мастацтва будуць выстаўленыя ў Беларускім Цэнтры ў Саўт-Рывэры ад 15 да 22 сакавіка. Адкрыцьцё выстаўкі ў нядзелю 15 сакавіка а 2 гадзіне папаўдні.

ВЕТЛІВА ЗАПРАШАЕМ УСІХ!
**Мастацкі клюб у Нью-Джэрзі**

## АБ СУЧАСНЫМ РЭЖЫМЕ БЕЛАРУСІ

Падзеі апошняга паўгоду ў жыцьці Рэспублікі Беларусь — абвешчаньне незалежнасьці, прыняцьцё нацыянальнае сымболікі, беларусізацыя ў назовах пляцоў і вуліцаў, тварэньне рэспубліканскіх збройных сілаў і інш. — паказваюць, што стары таталітарна-імпэрскі рэжым працягвае адміраць. Але каб усьведаміць сабе, як далёка працэс зьменаў зайшоў і колькі яшчэ шляху застаецца прайсьці да запраўднага дэмакратычнага грамадзтва, трэба паглядзець, што засталося са старога рэжыму, са старых кадраў, са старых таталітарных звычак.

Вось перад намі два матар'ялы: інтэрв'ю ў «Народнай газэце» (29.VII.91) старшыні Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі Беларусі генэрал-маёра Эдуарда Шыркоўскага пад загалоўкам «Я застаўся з народам, дзеля таго што яму прысягаў» і «Справаздачны даклад» Часовае камісіі Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, якая расьсьледвала справу падтрыманьня ўрадавымі і партыйнымі ўстановамі Беларусі, у тым ліку кіраўніцтвам Беларускай Ваеннай Акругі, жнівеньскага путчу. Хто і наколькі падтрымваў ў Беларусі гэную незаконную антыдэмакратычную змову?

Генэрал Шыркоўскі кажа, што ён ня толькі катэгарычна адмовіўся падтрымаць путчыстаў, але наадварот. Ён сам сабе сказаў: «Не, 'паважаныя', нам з вамі не па дарозе. Ня вы меня зацьвярджалі, а Вярхоўны Савет Беларусі. Яму я даваў клятву на вернасьць, яму буду і служыць». Салідарызаваўся зь ім, кажа Шыркоўскі, і першы намесьнік міністра нутраных спраў Віктар Кавалёў (міністар нутраных справаў Ягораў быў у тым часе ў адпачынку). Кавалёў нічога пра путч ня ведаў і Шыркоўскі паінфармаваў яго, пра атрыманую ўраньні 19-га жніўня зашыфраваную тэлеграму, у якой было загадана кіраўніцтву Беларускай ваеннай акругі «забясьпечыць выкананьне Закону СССР 'Аб надзвычайным палажэньні'». «Самае галоўнае, — сказаў у інтэрв'ю «Народнай газэце» Шыркоўскі, — што па ўсіх прыцыповых мамэнтах нашы пазыцыі зышліся: ДКНП ніякай законнай улады над намі ня мае. Гэта па-першае; па-другое, мы падпарадкоўваемся толькі Вярхоўнаму Савету Беларусі і беларускаму ўраду». Калі ген. Шыркоўскі зьвярнуўся да кіраўніка ўраду В. Кебіча, той сказаў: «Ніякіх каманд з Масквы для выкананьня ня прымаць, шыфртэлеграму пакінуць збоку».

Што-ж устанавіла Часовая камісія Вярхоўнага Савету расьледаваўшы ўсю справу? А з рапарту камісіі вынікае, што Шыркоўскі не навучыўся яшчэ гаварыць праўду.

Як выяўляецца, таго-ж самага дня, 19-га жніўня, усе войскі БВА былі прыведзеныя ў павышаную баёвую гатовасьць. На наступны дзень па каналах КДБ у адрас органаў аховы здароўя рэспублікі быў перададзены загад міністра аховы здароўя СССР № 29, каб была прыведзена ў гатовасьць служба адмысловай мэдыцынскай дапамогі з адпаведнай тэхнікай, прэпаратамі і запасам крыві.

Па рэспубліцы ліхаманкава рассылаліся шыфраграмы, тэлефонаграмы з дырэктывамі забясьпечыць выкананьне дырэктывы ДКНП аб надзвычайным палажэньні. Міністар юстыцыі рэспублікі Дашук, паводля рапарту камісіі ВС, загадаў сваім падначаленым быць на працоўных месцах у выхадныя дні дзеля забесьпячэньня «першачарговага безадкладнага разгляду арыштанцкіх справаў». Інакш кажучы, была запушчаная ў ход уся старая рэпэрсійная машына на выпадак, калі-б людзі выйшлі масава на вуліцу пратэставаць супраць захопу ўлады змоўцамі ў Маскве.

Паводля менскае газэты «Знамя юности» (21.XII.91) «асабліва вялікая роля ў выконваньні загадаў ДКНП належала каманюючаму БВА ген. А. Кастэнку». Але й Кастэнка схлусіў пра сваю ролю Вярхоўнаму Савету Беларусі, дзе ён выступаў 24 жніўня і прадставіў справу так, што войскі акругі практычна не падтрымалі пераварот. Тымчасам як дакумэнты, праведзеныя ў рапарце камісіі, сьветчыць якраз аб адваротным — усё было гатова, каб абрушыцца на галовы людзей, калі-б яны ўздумалі адкрыта й масава пратэставаць супраць змоўшчыкаў. Дзеля гэтага камісія ВС па ацэнцы дзеяньняў членаў ДКНП і грамадзка-палітычных сфармаваньняў, што падтрымалі іх, запрапанавала ВС РБ, у шэрагу іншых мерапрыёмстваў і гэтых:

1. Распрацаваць сыстэму праўных захадаў, каб больш не дапусьціць да зьяўленьня партыяў непарлямэнцкага (таталітаранага) тыпу і зрашчэньня партыйных і дзяржаўных структураў.
3. Увесьці інстытут канстытуцыйнага нагляду (суд).
3. Распрацаваць закон аб КДБ, маючы на ўвазе ягоную карэнную рэарганізацыю, забараніць членства ў палітычных партыях службоўцаў праваахоўнай сыстэмы, КДБ і вайсковых фармацыяў.
4. Звольніць з пасадаў, разам зь іншымі, камандуючага Беларускай ваеннай акругай А. Кастэнку і першага намесьніка міністра нутраных справаў В. Кавалёва. Таго Кавалёва, пра якога ген. Шыркоўскі сказаў, што «па ўсіх прынцыповых мамэнтах нашы пазыцыі зышліся»...

Што да самога старшыні КДБ ген. Шыркоўскага, дык пра яго ў рапарце камісіі поўнае маўчаньне, і можа гэтае маўчаньне кажа нам больш, чымся сказалі-б словы.

## НАВУКОВАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў ВІЦЕБСКУ-ПОЛАЦКУ 16-17 ЛІСТАПАДА 1991 г.

У праграме «Асьветнікі зямлі Беларускае» адбылася канфэрэнцыя прысьвечаная 830-годзьдзю стварэньня беларускім умельцам Лазарам Богшам крыжа для Сьвятое Еўфрасіньні Полацкае.

На паседжаньнях былі зачытаныя панад 20 рэфэратаў вядучымі дасьледнікамі беларускае гісторыі, рэлігійнай мінуўшчыны, мастацтва, дойлідства, археалёгіі ды культуры Беларусі.

Да ўдзельнікаў канфэрэнцыі прамаўляў таксама Епіскап Полацкі й Віцебскі — Дзімітры ды ў часе канфэрэнцыі былі экскурсіі ў гістарычныя цэрквы Полацку й Віцебску ды наведаньне Спаса-Еўфрасіньнеўскага манастыра.

Спансэравалі канфэрэнцыю: Віцебскае абласное краязнаўчае аб'яднаньне, Віцебская абласная рада Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Полацка-Віцебская праваслаўная епархія й Беларускі фонд культуры.

## 71-ЫЯ УГОДКІ СЛУЦКАГА ЧЫНУ Ў ПЭРТ — АЎСТРАЛІЯ

У гісторыі арганізацыйнага жыцьця Беларусаў Заходняй Аўстраліі, сьвяткаваньне 71-ых угодкаў Слуцкага Чыну было сараковым з чаргі. Адбылося яно ў гасподзе сп. Алекса Мароза, дзе сабралася ладная колькасьць суродзічаў з Пэрту і ваколіцаў. Сярод прыбыўшых былі айцец Уладзімер, матушка Ірына з дачкой і ўнучкай ды др. А. Бразоўскі. Урачыстасьць адчыніў старшыня Беларускага Аб'яднаньня ў Заходняй Аўстраліі сп. Міхась Раецкі малодшы. Настаяцель прыходу БАПЦ Маці Божай Жыровіцкай айцец Уладзімер адслужыў паніхіду па загінуўшых героях. Асабліва ўрачыста было тое, што паніхіду служыў беларускі сьвятар.

Пасьля паніхіды сп. Р. М. прачытаў прозьвішчы сяброў Беларускага Аб'еднаньня, што адыйшлі на вечны супачынак. Сп. Р. М. прачытаў даклад на тэму дня па-беларуску. Больш абшырнейшы даклад па-ангельску зрабіў старшыня Беларускага Аб'еднаньня, сп. Міхась Раецкі малодшы. У сваім дакладзе апрача тэмы Слуцкага Чыну, ён крануў і праблему асыміляцыі, і прасіў моладзь не адракацца сваёй беларускай спадчыны, а шанаваць і перахоўваць яе.

Сьвяткаваньне закончылася сяброўскай бяседай, за зарганізаваньне якой належыцца шчырае беларускае дзякуй сп. Алексу і сп-ні Марыі Мароз ды другім што дапамагалі ім.

**Р. М.**

## БЕЛАРУСКІЯ ТАНЦЫ Ў ТАСМАНІІ



*Беларускі Мэльбурнскі гурток «Каліна» на Фэстывалі ў Тасманіі.*

2-га лістапада мінулага году Беларускі Мэльбурнскі гурток «Каліна» удзельнічаў у Міжнародным Фэстывалі Музыкі й Танцу, які адбыўся ў Ланкэстон на востраве-штаце Тасманія. Тасманія, самы малы, але й самы маляўнічы штат Аўстралійскага Су-польства, аддзелены ад Мэльбурну морам.

Беларускія дзяўчаты: Ірэна, Сузана, Люба, Ліза, Тамара й Вера годна рэпрэзэнтавалі беларускі танец на інтэрнацыянальным фэстывалі.

*З жыцьця ў Чыкага*

## КАЛЯДНЫ ФЭСТЫВАЛЬ



*Беларускія прадстаўнікі і Пэт Міхальскі (зьлева), асыстэнтка губ. Джыма Эдгар пры беларускай ялінцы.*

Ужо чатырнаццаты год як Беларускі Каардынацыйны Камітэт Чыкага выстаўляе ялінку, а дзесяты год як ладзіць Калядную праграму ў Музэі Навукі й Індустрыі Чыкага.

Кожны год нашая ялінка папаўняецца новымі непаўторнымі аздобамі. Трэба прызнаць, што саломкавыя ўпрыгожваньні, дзякуючы арыгінальнай геамэтрычнай кампазыцыі ды вясёлекавам колерам выклікаюць зацікаўленьне наведвальнікаў. Нат кіраўнік Каляднага Фэстывалю зазначыў, што беларуская ялінка, на ягоную думку, была выдатнай сярод 39-цёх іншых. Нашая ялінка была ўдэкараваная 15-га лістапада летась, калі Музэй адзначыў 50-цігодзьдзе Каляднага Фэстывалю і разабраная толькі 5-га студзеня сёлета.

Пад беларускай ялінкай віднеў назоў "Bielarus" ды па-ангельску была пададзеная інфармацыя пра беларускія калядныя звычаі.

28-га сьнежня быў пастаўлены на эстрадзе Музэю сцэнічны абразок па-ангельску «Каляды на Беларусі», які быў напісаны сп-няй Верай Рамук, кіраўнічкай беларускай Каляднай праграмы. П'еска ў адным акце прадставіла сям'ю ў Калядны вечар, на Куцьцю — калядныя стравы, звычаі, варажбу, сьпяваньне Калядак, ды прыход Калядоўшчыкаў.

Наратарам у часе пастаноўкі была Людміла Барышкевіч, якая перад праграмай коратка расказала пра Беларусь па-ангельску, а дзеці ў нацыянальных касьцюмах разам са сп-няй Верай Рамук дэманстравалі вялікую геаграфічную карту Беларусі. Уся праграма была запісаная на відэастужку Нікадэмам Жызьнеўскім.

На гэтым месцы трэба выказаць падзяку сп-ні Людвіцы Бяленіс за нарыхтаваньне новых Калядных арнамэнтаў; а за прыбіраньне й разбор ялінкі сп-ням Ірэне Пануцэвіч, Веры Рамук, Маргарыце Багдан, Валі Бушнай ды сп-ром Нікадэму Жызьнеўскаму і Васілю Багдану; кіраўнічцы Каляднай праграмы і аўтару пастаноўкі «Каляды на Беларусі» Веры Рамук; удзельнікам пастаноўкі Майку Гаскы, Але Барышкевіч і ейным дачкам Людміле й Нікі, Лідзе Каралюк і ейным дзецям Рэгіне і Крыстыне Каралю-Анджылетты, Рыгору Гэрстэн, Франку Віллэла, Алене Гірнай ды калядоўшчыкам Джулі Барнс, Памэлі Пэттібон, Пэтрыку Кокс, Полу Джынсу, ды зорканосцу Васілю Багдану.

**Вітаўт Рамук**

## ЛІСТА АХВЯРАДАЎЦАЎ НА БЕЛАРУСКІ ЧАРНОБЫЛЬСКІ ФОНД У АЎСТРАЛІІ

**1. Нова Паўдзённая Валія. Сыднэй.**

**Па $1000 дал.:** М. Лужынскі, В. Ліпскі, Н. Ярашук. Сп-тва Мілеўскія.

**Па $500 дал.:** С. Нарушэвіч, М. Сэзановіч, М. Антух, Л. Качан.

**Па $300 дал.:** М. Ціхан, В. Плахоцкі, В. Стюарт, Бел. Нацыянальны Фонд — Сыднэй.

**$250 дал.** — Сп-тва Каранеўскія.

**$214.46 дал.** — Праваслаўная Царква у Банкстаў.

**Па $200 дал.:** К. Сіткоўскі, Л. Парэцкі, В. Кулецкі, А. Алехнік.

**$150 дал. — Я. Шкода.**

**Па $100 дал.:** Сп-ня В. Валодзін, С. Шаўцоў, В. Марчынка, М. Зуй, Сп-ня В. Крупка, Лівоцкі, Сп-ня А. Хаванскі, Сп-ня Г. Падгайская, І. Ляшук, А. Макарэвіч, Л. Грыцэ, В. Русак, Я. Гавенчык, Сп-ня Гавенчык, К. Каваль, В. Радзевіч, С. Яраховіч, А. Бакуновіч, М. Бакуновіч, Сп-ня С. Уласевіч, А. Зуй, К. Алехна.

**Па $50 дал.:** А. Юхневіч, М. Маслоўскі, І. Юхневіч, Сп-ня О. Тамашэўска, Сп. Б. Шудра, Сп-чня Н. Зуй, С. Кішко, К. (украінец), Сп-ства Сўрас, Паршута, А. Булаўскі, С. Тамашэўскі, Д. Дзядуля, А. Алехна, Міховіч, А. Смаль, Сп-ня Л. Пруднцка, Максуль.

**$40 дал. — Сп-ня С. Шымон.**

**Па $30 дал.:** Каваль, М. Зайко;

**$25 дал.** — Е. Якубоўскі, **$20 дал.** — А. Калпяка.

**Заўвага:** Да травеня ў Новай Паўдзённай Валіі сабарана **$11 859.46 дал.**

**2. Вікторыя. Мэльбурн.**

Сабрана на імпрэзах ладжаных Управамі Бел. Ц. Камітэту і Вык. Камітэтам Фэдэральнай Рады — **$768.78 дал.**

Каапаратыва Беларускага Дому — **$400 дал.**

Беларускі Нацыянальны Фонд у Мэльбурне **$300 дал.**

**Па $250 дал.:** Вык. Камітэт Фэд. Рады, Сп. У. Груша.

**Па $200 дал.:** Жаночы Камітэт у Мэльбурне, Жан. Камітэт пры Б.А.П.Ц. у Мэльбурне, Сп.-тва М. Шэка.

**Па $150 дал.:** Ул. Сідлярэвіч, В. Гушча, П. Гуз, Я. Алёхін, А. Жураўлевіч, Я. Стасевіч, Г. Шайпак, Ахфяра ад Фонду Сустрэчы (Мэльбурн).

**Па $100 дал.:** а. А. Грыцук, А. Шнэк, У. Шнэк, А. Малінін, Сп-ства Красноўскія, Ф. Корбут, М. Скабей, М. Нікан, Я. Валецёнак, М. Тарашкевіч, В. Русак, Т. Лашук, А. Кукель, А. Малочка, Сп-ства Целюк, Сп-тва Ладуцько, В. Дамашэвіч, Сп-ня і О. і М. Субач.

**Па $70 дал.:** П. Каспаровіч, Сп-тва Чэховы;

**Па $50 дал.:** Ул. Карп, Я. Курнушка, Сп-ня А. Каспаровіч, Сп-ня О. Слесарэвіч, С. Круковіч, Бел. Цэнтральны Камітэт у Вікторыі, Сп-ня В. Карпук, Сп-ня Т. Басарыновіч, Сп-ня А. Кукміэстэр, М. Груша, Сп-ня З. Порчак, Сп-ня І. Кулакоўскі, Бел. Вызвольны Фронт (Мэльбурн), М. Субач, Сп-ня Шацкі, М. Сасноўскі, Сп-чня Р. Шнэк, Сп-ня Марыя Субач, Усцінаў, У. Гірыс.

Сабрана на Сьвяткаваньні мастацкім гуртком моладзі «Каліна» **$134.22.**

Сп-тва Камісараў — **$40 дал.** Доктар Каскевіч — **$30 дал.** Сп. Каролік — **$25 дал.**

**Па $20 дал.:** Я. Яшчэнка, Сп-ня М. Раманчук, П. Грушка, Сп-ня О. Дваразька, М. Галоўка, Я. Малушка, А-Н, Торлей, Г. Брокэн, У. Шэрба, Сп-ня Л. Яцкевіч, А. Кажура, Сп-ня Н. Сікорская, Л. Сьвяты.

Сп-ства Русак — **$16 дал.**

**Па $10 дал.:** Заяц, Сп-ня Бялочэкоўскі, Сп-ня Дыміцкі, Галл, К. Бляйлок, Гарт, Шагайда, Сп-тва Данілюк.

М. Шэка з прадажы прэсы — **$7 дол.**

**Па $5 дал.:** А. Заяц, М. Грэн, Г. Бачноф, Сп-ня Кенды, Сп-ня Розінская, А-М.

Сп. Джім Бірч — **$3 дал.,** Сп. С. Франсуа — **$2 дал.**

**Заўвага:** Банкавыя працэнты да чэрвеня 1990 г. **$318.02 дал.**

Усяго сабрана ў Вікторыі (Мэльбурн) да жніўня г. году ... **$7,674.02 дал.**

### ПАЎДЗЁННАЯ АЎСТРАЛІЯ (АДЭЛЯЙДА)

**Па $20 дал.:** Айцец М. Бурнос, Сп.-тва Ферэнчук.

**Па $100 дал.:** Я. Оршанскі, А. Рыткевіч, С. Почопка, Колесьніковіч, Сп-ня Р. Н. Гупэр, Сп-ня П. Навчоменко, Сп-ства М. і Е. Кубрак, Сп-ня П. А. Чорногалян, Сп-тва В. Колесьніковіч, Сп-ня П і Е. Юршо, Сп-ня Я. і А. Ролсон, Сп. В. і С. Акавіты, Сп-тва М. і С. Кастышын.

**Па $70 дал.** 1) Сп-тва М. і Г. Кандрусік.

**Па $50 дал.:** М. Шэцко, Сп-ня А. Сухаверха, Савіцкі, Ф. Фролов, П. Пухар, Сп-ня А. Пашкоўскі, В. Пашкоўскі, Сп-ня Е. Трысмакоў, Сп-ства П. і Л. Булфорд, Сп-ства В. і К. Дiман, Сп-ня Шараевіч, А. Краўчэнко, Сп-ства В. і С. Зеленеўскі.

Ахфяра ад Д. П. Інт. С. А. В. — **$90 дал.**

Шаваронок — **$30 дал,** І. Гілфіллан — **$25 дал.**

**Па $20 дал.:** Сп-ня Л. Чычэліс, В. Левановіч, С. Пашкоўскі.

В. Сташыц — **$10 дал., «Н. Н» — 5 дал.**

Усяго сабрана (у Паўдз. Аўстраліі) да 1.5.90 г. — **$2,640.00 дал.**

### ЗАХОДНЯЯ АЎСТРАЛІЯ — ПЭРТ.

Беларускае Аб. у Заходняй Аўстраліі — **$500 дол.**

**Па $100 дал.:** Сп-ня В. Раецкі, А. Раецкі, М. Раецкі, Л. К., Др. А. Бразоўскі.

**Па $50 дал.:** а. Краўчук, М. Краўчук, Я. Раецкі, Сп-ства Ф. і В. Дарэўскі, Сп-ства З. Далінскі, Др. В. Сакало.

З прадажы прэсы — **$30 дол.**

**Па $20 дал.:** Сп-ня Дамброўскі, Сп-ня М. Мароз, Ф. Данейко, Айцец А. Сітнік, Р. Стыль, Беймук, Сп-ня М. Ёлоб.

**Па $10 дал.:** Сп-ства К. і А. Кацюба, С. Дамброўскі, М. Ёлоб, Л. М. Канды, С. Ушко.

**Па $5 дал.:** М. Сакало, М. Гнат, Бадэнко, П. Стапачук, Мовхлам.

Усяго разам сабрана ў Зах. Аўстраліі — **$1,645 дал.**

## СУПОЛЬНАЯ КУЦЬЦЯ

*З жыцьця ў Нью-Джэрзі*



*а. Васіль благаслаўляе Куцьцю. Фота А. Дубягі.*

Ужо ўвайшло ў традыцыю ў Парафіі Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд Парку ладзіць супольную Куцьцю. Сёлета, ў нядзелю 6-га студзеня, парафіяне ды прыяцелі Парафіі зь Нью-Джэрзі, Нью-Ёрку ды іншых далейшых мясьцін сабраліся на вячэрню ды супольную бяседу. Галоўны стол быў па звычаю пакрыты сенам і заслан белай настольніцай. Побач стаяў снапок. Нашыя гаспадыні падрыхтавалі больш за дванаццаць традыцыйных страваў.

Куцьця была наладжаная стараньнем Сястрыцтва парафіі.

## НОВЫ ГОД ПА СТАРОМУ СТЫЛЮ

14-га студзеня у парафіі Божай Маці Жыровіцкай, зь ініцыятывы спадарства Ганны й Анатоля Семянчукоў было наладжанае спатканьне Новага Году па старому стылю. Гэты-ж дзень ёсьць сьвятам Сьвятога Васіля Вялікага, аднаго з найбольш заслужаных айцоў Праваслаўнай Царквы. Удзельнікі ўрачыстасьці адзначылі прысутнасьць на залі двух імяньнікаў — а. прат. Васіля, настаяцеля Парафіі й сп. Васіля Русака, сакратара Парафіяльнай Рады — і прасьпявалі ім «Сто год». Музыку й песьню падрыхтаваў сп. Пётра Скепка.

На спатканьні было каля сарака асобаў і ўсе падзялялі думку, каб гэты звычай прадаўжаць у будучыні.

Чысты даход з імпрэзы ў суме 169.00 даляраў быў перададзены Сястрыцтву Парафіі. Трэба тут зазначыць, што Сястрыцтва адыграе вялікую ролю ў жыцьці парафіі, ва ўдэкараваньні і утрыманьні царквы ды ў іншай дапамаговай дзейнасьці.

## СЛУЦКІ ПОЯС — МАСТАЦКІ ТВОР

Пад гэткім загалоўкам сп-ня Галіна Русак прачытала лекцыю на 20-ай гадавой Канфэрэнцыі Таварыства Бібліятэкараў Мастацтва Паўночнай Амэрыкі. Канфэрэнцыя адбылася ў днях 6-14-га лютага сёлета ў Чыкага, штату Ільліной.

Сп-ня Русак прадставіла гістарычныя й геаграфічныя ўмовы, ў якіх зарадзіўся Слуцкі пояс і паказала яго як высока мастацкі твор, што ўжыўшы пачаткова ўсходні матыў, спалучыў яго з народнай традыцыяй і стварыў новы незалежны матыў музэйнае вертасьці. Сяньня Слуцкія паясы можна знайсьці ў вялікіх музэях сьвету; найменшая колькасьць іх хіба засталася на бацькаўшчыне.

Сп-ня Русак была выбраная старшынёю Сэкцыі Таварыства ў штаце Нью-Джэрзі на наступны год.

## НАЗНАЧЭНЬНІ Ў ШТАЦЕ НЬЮ-ДЖЭРЗІ

Губэрнатар Штату Джым Флёрыё назначыў дня 28-га студзеня сёлета спню Галіну Русак сябрам Губэрнатарскай Камісіі па Гісторыі Усходняй Эўропы. Аднам з заданьняў Камісіі будзе падрыхтаваньне матар'ялаў да гісторыі й геаграфіі Усходняй Эўропы для школьных падручнікаў. Вялікая частка насельніцтва штату ёсьць усходня-эўрапэйскага паходжаньня. Нажаль аб гэтым мала ведаюць маладыя амэрыканцы; мала ведаюць пра сваё паходжаньне й нашчадкі беларускіх эмігрантаў.

Губэрнатар штату Нью-Джэрзі Джым Флёрыё назначыў сп. Лявона Шурака сябрам Этнічнае Дарадчае Рады. Да гэтага часу сябрам Рады была сп-ня Ірэна Дутко, якая ўлажыла шмат працы ў яе дзейнасьць і належна прадстаўляла там беларускія інтарэсы.

У пятніцу, 14-га лютага сёлета, адбылося прыняцьцё прысягі губэрнатарам Штату ад новых сяброў Дарадчай Камісіі. У сваёй прамове губэрнатар Флёрыё зазначыў, што шмат Нью-Джэрзі ёсьць хіба найбольш калярытным у сэнсе этнічнага складу й ягонай мэтай ёсьць дапамагчы ў захаваньні й разьвіцьці багатых культураў жыхароў штату.

У беларусаў штату Нью-Джэрзі добрыя адносіны з губэрнатарам Джымам Флёрыё навязаліся ўжо даўно, калі ёе быў кангрэсмэнам ад штату. Флёрыё заўсёды моцна выказваўся ў падтрымку свабоды й дэмакратыі беларускага народу.

**В. Русак**

## ФРАНЦУЗКА-БЕЛАРУСКІЯ ДАЧЫНЕНЬНІ

8-га студзеня сёлета, Управа беларускай арганізацыі у Францыі «ХАЎРУС», выслала Прэзыдэнту Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, Станіславу Шушкевічу, ліст, у якім просіць каб беларускі Урад стварыў як найлепшыя умовы для развіцьця цясьнейшай сувязі паміж двумя краінамі — Францыяй і Беларусьсю. У першаю чаргу, неабходна адчыніць у Парыжы беларускую амбасаду і таксама наладзіць лётніцкую сувязь між двумя сталіцамі.

На ліст сяброў «Хаўрусу», Прэзыдэнт Станіслаў Шушкевіч адказаў з прыхільнасьцю і сымпатыяю, ухваліючы такія ініцыятывы беларускай эміграцыі.

**Лявон Шыманец**
**Міхась Наўмовіч**

## «ЗА КРУГЛЫМ СТАЛОМ» АБ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ

Англа-Беларускім таварыствам дня 4-га сьнежня ў залі пры Беларускай бібліятэцы імя Фр. Скарыны была зладжаная лекцыя «За круглым сталом» з мэтай шырэйшага запазнаньня з сутнасьцяй жыцьця ў Беларусі пасьля абвешчаньня яе Незалежнай Рэспублікай.

Адчыніла й вяла вечар др. Ліндсэй Гэгс — сакратар А-Б таварыства. Праф. Дж. Дынглей і Вера Рыч глыбей паінфармавалі прысутных, спасылаючыся на асабістыя дасьведчаньні з сучаснай станам на Беларусі. Дж. Дынглей, між іншага, затрымаўся на дзейнасьці Вярхоўнага Савету Рэспублікі ад часу дэкляраццы Незалежнасьці. Вельмі крытычна выказваўся адносна слабой дзейнасьці, а прасьцей, аб бязьдзейнасьці сяньняшняга Ураду. Некалькі месяцаў прамінула, а незалежніцкіх праяў у вонкавай палітыцы не заўважаецца. Брытынскім Урадам быў асыгнаваны дапаможны фонд — «Кноў гаў фанд» з якога маглі-б карыстаць нова-паўстаўшыя рэспублікі. Беларускі Урад нічога ў гэтым не зрабіў і з дапамогі не скарыстае.

Задэкляраваць Незалежнасьць, гэта яшчэ недастаткова. Трэба стварыць дзейны дзяржаўны апарат Беларусі з поўнай дапамогай: служба якая будзе забясьпечваць межы (мытная), армія, свая валюта. Зрабіць рэформы ўнутры дзяржавы для наладжаньня эканомікі. Якраз з узгляду на эканоміку, Рэспубліканская ўлады, на ягоны, Дж. Д. погляд, нічога ня робяць, і паслухмянасьць і ляяльнасьць да Масквы надалей відавочная. Ен бачыў ліст зь Менску ў справе друку беларускай валюты тут у Лёндане, аднак аб гэтым Беларускі Урад нічога ня ведае.

Паўстае пытаньне, ці ня станецца Беларусь найбольш адсталай краінай, калі Урад яе надалей будзе бяздзейным, беззарадным. Гаворачы аб Урадзе Дж. Дынглей заўважыў, што асобы сяньняшняга ураду не надаюцца на займаныя імі становішчы, асабліва прэзыдэнт Ст. Шушкевіч, хоць ён і інтэлігэнтная асоба аднак ня мае палітычнае падрыхтоўкі.

Вера Рыч больш дэталёва разгледзела прабег падзеяў на Беларусі паводля свайго дзёньніка. (Гэтую хроніку падзяў ад 19-га жніўня да 30-га лістапада 1991 году, у ангельскай мове, можна на запатрабаваньне дастаць ад рэдакцыі «Беларуса» — *рэд.)*

Выказваньні прэлегэнтаў выклікалі гарачыя дыскусыі.

На лекцыі прысутнічаў пасол з Савецкай амбасады, У. Уласевіч, беларус.

**А. Здановіч**

## ДАНЧЫК! БЫВАЙ І ТРЫМАЙСЯ!



*Група моладзі з Данчыкам у часе ўрачыстасьці.*

1-га лютага ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў гор. Саўт Рывэры, Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ладзіла разьвітальны вечар з Багданам Андрусышыным — Данчыкам, бо ён неўзабаве ад'яжджаў на новую працу ў Нямеччыну у беларускую рэдакцыю радыё Свабода. На ўрачыстасьць былі гэтаксама запрошаныя прадстаўнікі шматлікіх беларускіх арганізацыяў ды шырокае грамадзтва.

Др. Юрка Кіпель, старшыня арганізацыі, адчыняючы вечар падкрэсьліў як высока амэрыканска-беларуская моладзь цэніць Данчыка, ня толькі як выдатнага папулярызатара беларускае песьні ў Амэрыцы й на Беларусі, але як і свайго блізкога сябру ды выдатнага прадстаўніка маладога беларускаамэрыканскага пакаленьня.

Спадар Антон Шукелойць, старшыня Галоўнае Управы БАЗА, вітаючы Данчыка і ягоных бацькоў, падкрэсьліў Луцкевічаўскую спадчыну ў ім ды характэрную Луцкевічам пiянерскасьць і вытрывалась у працы. Гэтаксама сп. Шукелойц сказаў, што беларуска-амэрыканскае грамадзтва ўдзячнае і Данчыку ды і ўсёй моладзі, хто пераймае ад старэйшых грамадзкапалітычную працу.

Віталі Данчыка таксама сп. сп. Віктар Тур, кампазытар Аўген Магаліф, сп-ня Вера Запруднік ды іншыя.

У часе імпрэзы адбыўся экспромтам зладжаны канцэрт, у якім узялі ўдзел Данчык, Аўген Магаліф, прысутная і шыракаведамая маладая сьпявачка зь Беласточчыны Галіна Якімюк, ды маленькая дачушка спадарстваў Магаліф — Каця. У сапраўды сяброўскай, цёплай атмасферы разьвітальная бяседа зацягнулася на даўгія гадзіны.



*Др. Юрка Кіпель уручае падарунак Данчыку. Фота Н. Кудасавай*

На заканчэньне, Юрка Кіпель падараваў Данчыку спэцыяльна выграваваную эмблему з адрасам Данчыку й клічам Жыве Беларусь ды шчыра падзякаваў кіраўнiком грамадзкага цэнтру за дапамогу моладзі.

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ 100-Х УГОДКАЎ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА Ў РЫЗЕ

Сьвяткаваньне сотых угодкаў ад нараджэньня Максіма Багдановіча ладзіла ў Рызе Латвійскае Таварыства Беларускае Культуры «Сьвітанак». Урачыстая вечарына адбылася 14 сьнежня ў Доме культуры прафсаюзаў «Маза Гілдэ», у той самай залі, дзе мінулым годам рыжскія Беларусы сьвяткавалі 500-я ўгодкі ад нараджэньня Франьцішка Скарыны.

У госьці да Беларусаў Рыгі прыехаў народны фальклёрна-этнаграфічны ансамбль Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту «Неруш» і паэтка Ніна Загорская зь Менску, а таксама прыйшлі латвійскія паэты-перакладчыкі Андрыс Вэянс і Віктар Ліўзэмніекс.

Арганізатары мерапрыемства вельмі непакоіліся: ці адгукнуцца суродзічы, каб не атрымалася так, што арыстаў будзе больш чымся гледачоў. А падставы для занепакоеннасьці былі: напярэдадні, расклееныя па Рызе афішы пазрывалі шавіністычна настроеныя асобы, а некаторыя газэты не надрукавалі своечасова абвесткі. Аднак хваляваньні адразу зьнікл і, калі задоўга да пачатку вечарыны пачало зьбірацца шмат народу. У фае можна было набыць беларускія кніжкі й часапісы ды газэты «Наша ніва», «Свабода» і «Навіны БНФ». Як высьветлілася затым — 95% прысутных даведаліся аб вечарыне зь інфармацыі па Латвійскаму Тэлебачанньню, і тое што сабралася паўнюткая заля нашых суродзічаў, сьведчыць што й сярод Беларусаў Рыгі адраджаецца нацыянальная сьведамасьць, і гэтаму ўсё больш спрыяюць добрыя падзеі, якія адбываюцца на Бацькаўшчыне.

Сьвяточны вечар адкрыў сп. Адольф Жук, — старшыня Рады «Сьвітанка», — які паінфармаваў прысутных аб жыццёвым і творчым шляху Максіма Багдановіча. Затым латышскі паэт-перакладчык А. Вэянс прачытаў некалькі вершаў Багдановіча ў перакладзе на латышскую мову, і ў прыватнасьці яго славутую «Пагоню». Ён адзначыў, што творчасьць Максіма так блізка й зразумела латышам у якіх вельмі шмат агульнага зь лёсам беларускага народу, а народны паэт Латвіі Яніс Райніс у колішняй Латвійскай Рэспубліцы бараніў у Сэйме нацыянальныя, культурныя ды палітычныя правы Беларусаў. Сам сп. Вэянс, які паходзіць з Латгаліі, ведае некалькі беларускіх народных песьняў гэтага абшару і праспяваў сам адзін куплет песьні, каторую яго бацька любіў сьпяваць у маладосьці. Затым выступаў гурт «Неруш», які быў узнагароджаны працяглымі апладысмэнтамі.

Далей, менская паэтка, Н. Загорская расказала аб жыцьці і творчым чыне «нашага, Богам дадзенага, Максіма», ды аб значэньні яго творчасьці для сёньняшняга беларускага Адраджэньня. Яе даклад быў настолькі шчырым, і сказаным прыгожай мовай, што вельмі крануў прысутных, а некаторыя ледзь стрымвалі сьлёзы ў вачох.

Латышскі паэт В. Ліўзэмніекс, які таксама робіць пераклады твораў М. Багдановіча на латышскую мову, расказаў як увосень 1988 года быў у Менску і выпадкова патрапіў на Дзяды, менавіта ў той дзень, калі мірнае шэсьце менчукоў у дзень паміналньня продкаў, разагналі міліцыянты. Вакол лунала шмат бел-чырвона-белых сьцягоў, — сказаў ён, — я паглядзеў уверх, а там — на харугве, над маёй галавой, я ўбачыў выяву срэбнага вершніка на белым кані. Моладзь пад гітару сьпявала Багдановічаву «Пагоню». У гэты момант міліцыянты накінуліся на людзей і пачалі біць стэкамі, а іншых пацягнулі ў «варанкі»... Усё бачанае яго вельмі ўразіла. Хто такі Багдановіч, і чаму за яго песьні бьюць людзей? З таго часу Віктар Ліўзэмніекс займаецца перакладамі твораў Максіма Багдановіча, і тут на вечары ён таксама прачытаў колькі ягоных вершаў у перакладзе на латышскую мову.

У заключэньні мастак Вячка Целеш, — партрэт Багдановіча, дарэчы работы, упрыгожваў сьвяточную сцэну, — сказаў прысутным, што ў Рызе адкрыта нядзельная беларуская школа, што працуе гурток выяўленчага мастацтва для дзяцей «Вясёлка», дзе таксама акрамя маляваньня, дзеці могуць навучыцца роднай мовы, што, натульна, выклікала цікавасьць рыжан-Беларусаў, з каторых шмат хто упершыню далучыўся да беларускага жыцьця. Апошнія словы, словы ўдзячнасьці, Вячка Целеш адрасаваў гаспадарам дома культуры «Маза Гілдэ», якія заўсёды прыхільна адносіліся да Беларусаў Рыгі, выдзяляючы залю, нават не беручы платы за выкарыстаньне памяшканьня.

**Уладзімер Скрабатун.**
**Вэнтсьпілс, Латвія.**




***У адзначэньне 100-гадовага юбілею ад дня нараджэньня***

***МАКСІМА БАГДАНОВІЧА***

*Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва выдаў у колерах плякат пясьняра у выкананьні мастачкі Ірэны Рагалевіч-Дутко*

Памер: 16 × 20 інчаў

***Кошт плякату зь перасылкай $10.00***

*Выдадзеныя гэтаксама й юбілейныя паштоўкі.*
Цана паштовак зь перасылкай: 10 ам. даляраў за 30 паштовак.

## СЛАВЯНСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

Сёлета 2-га лютага, ў залі Аліс Талі Гол (Alice Tully Hall-Lincoln Center) адбыўся чарговы Славянскі Фэстываль. Фэстываль арганізавала Рада Славянскай Спадчыны у Нью Ёрку. У Раду Дырэктароў належаць прадстаўнікі славянскіх народаў: Баўгараў, Беларусаў, Македонцаў, Палякаў, Расейцаў, Сэрбаў, Славакаў, Славэнцаў, і Украінцаў. Беларусаў рэпрэзантуе Раіса Станкевіч, сябра Галоўнай Управы БАЗА. Гэта адзіная славянская арганізацыя, якая ўжо існуе ад 1978 году ў Нью Ёрку, калі адбыўся Першы Тыдзень Славянскай Культуры.

Ад самага пачатку Беларуска Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА), Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва (БІНІМ), Арганізацыя Беларуска Амэрыканскай Моладзі (АБАМ) і таксама Танцавальны Ансамбль Васілёк бралі актыўны удзел у імпрэзах ладжаных Радай Славянскай Спадчыны у Нью Ёрку. А імпрэзаў было шмат: мастацкія выстаўкі, выстаўкі народнага мастацтва, канфэрэнцыі, паэтычныя вечары, фэстывалі танцаў і музыкі і канцэрты. Беларускія мастакі П. Міранович, Я. Кызьлякоўскі, Ст. Тамара, І. Рагалевіч-Дудко, Н. Кудасава, І. Шыманец-Сурвіла і Г. Русак часта паказвалі свае абразы. Танцавальны Ансамбль Васілёк пад кіраўніцтвам др. А. Орса-Романо і Багдан Андрусышын — Данчык годна рэпрэзантавалі Беларусаў на фэстывалях і канцэртах.

Ад 1987 года славянскія фэстывалі адбываюцца ў адной з заляў Лінкольн Цэнтру ў Нью Ёрку. Апошні год на фэстывалі які адбыўся ў залі Нью Ёркскай Фільгармоніі (Aveny Fisher Hall-Lincoln Center) выступаў Данчык, як заўсёды за вялікім посьпехам. Ён таксама сьпяваў песьні беларускіх кампазытараў на канцэртах у 1982 і 1983 годзе ў малой залі Карнэгі Гол (Carnegie Recital Hall).

Сёлета Славянскі Фэстываль прашоў з посьпехам і як заўсёды заля была запоўненая. Валянтына Пархоменка, і яе муж Алесь Казак, выканалі вязанку беларускіх песьняў. Валянтына Пархоменка, сваім цудоўным голасам, сьпявала песьні ў аўтантычным народным стылі, і разам з Алесям Казаком, яны выканалі сваю праграму на высокім мастацкім і прафэсійным узроўні. Аўдыторыя ацаніла іх сьпеў з захапленьнем і бурнымі воплескамі пасьля кожнай песьні.

**Раіса Станкевіч**

## ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПРАЦА...

...над кніжкай пра Беларускую Гімназію імя Янкі Купалы ў Нямеччыне.

Мне прыемна паведаміць чатачом «Беларуса», што просьба («Беларус», лістапад 1991) аб дапамозе ў зборы дакумантаў і матар'ялаў адносна Гімназіі й увагуле пэрыяду беларускага выхадзтва ў лягерох перамешчаных асобаў у Нямеччыне знайшла прыхільны водгук сярод беларускага грамадзтва. Я атрымаў шмат лістоў ад шчыра зацікаўленых асобаў (у тым ліку й з паза Амэрыкі) з успамінамі й згадкамі на гэтую тэму й шмат перасылак з каштоўнымі архіўнымі матар'яламі. Усім аказаўшым гэткую дапамогу вельмі дзякую. Дзякую таксама тым прыхільным асобам, зь якімі я асабіста пазнаёміўся тут у Амэрыцы й меў нагоду ўзяць інтэрв'ю для намеранай кніжкі. Спадзяюся, што й далей буду сустракацца з гэткай-жа сардэчнай падтрымкай, так што, як і плянуецца, кніжка выйдзе друкам летам г.г.

З увагі на ўсё гэта, асьмельваюся яшчэ раз прыпомніць свой адрас у Амэрыцы (актуальны да паловы красавіка г.г.) і паўтарыць просьбу аб дапамозе ў зборы фактаграфічнага матар'ялу з пэрыяду 1945-50 гадоў з асаблівым націскам на гісторыю дзейнасьці Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы.

**Ян Максімюк**
**85-27 Dexter Court**
**Woodhaven, NY, 11421**
**tel.: (718) 2960-456**

## НАВІНКІ ДРУКУ

**UNCAPTIVE MINDS. A journal of information and opinion on Eastern Europe. Vol. IV. No. 3(17). Fall 1991.** Квартальнік, выдаваны Інстытутам за Дэмакратыю ва Ўсходняй Эўропе (Нью-Ёрк), прысьвечаны разгляду палітычных і сацыяльных праблемаў Усходняе Эўропы. У вапошнім нумары надрукаваная гутарка карэспандэнта з сакратаром Управы БНФ Вінцуком Вячоркам, запісаная ў чэрвені 1991 году. У ёй грунтоўна аналізуецца палітычная сытуацыя на Беларусі, характарызуюцца асноўныя палітычныя сілы, тлумачацца мэты БНФ, паказваецца ягоная роля й месца ў разьвіцьці палітычных падзеяў, выказваецца пазыцыя БНФ у вайсковым, рэлігійным і нацыянальным пытаньні. Гэтая публікацыя — рэдкая магчымасьць для англамоўнага чытача атрымаць аўтарытэтную інфармацыю пра Беларусь «зь першых рук».

**BYELORUSSIAN-ENGLISHI/ENGLISH-BYELORUSSIAN DICTIONARY. With Complete Phonetics. Compiled by Alexander Ushkevich & Alexandra Zezulin. New York, Hippocrene Books, 1992, 290 р.** Кароткі (па 6500 слоўных адзінак ў кожнай частцы) слоўнічак без прадмовы й тлумачэньняў, зь недакладнасьцямі ў перакладзе словаў і нехайнасьцямі ў транскрыпцыі. Нягледзячы на ўсе хібы — падзея вельмі добрая, дапаможа першаму знаёмству з нашай моваю і будзе мець прынамся прапагандны эфэкт — ці не ўпершыню нашае слоўніцтва прадстаўленае на паліцах сусьветных кнігарняў.

## СЬВ. ПАМ. МАГДАЛЕН ЭЛСІ РЫЧ

Народжаная ў Лёндане дня 28-га жніўня 1910 г., памёрла дня 17-га сьнежня 1991 году. Нябожчыца паходзіла са старых сем'яў роду Мур (Моорэ) — часткова Ірляндзкага, Данскага, Шкоцкага й Ангельскага паходжаньня. Пісьменніца па прафесіі. У часе Другой Сусьветнай вайны служыла ў службе пажарнай у Лёндане за што атрымала мэдаль.

У 1953 годзе разам з іншымі прыхаджанамі царквы Хрыста наведала Дом Марыянаў на Фінчлей, запазналася з Рыма-каталіцкай місіяй для беларусаў, якую ачольваў тады др. а. Часлаў Сіповіч ды хутка сталася дзейнай прыхаджанкай Беларускай капліцы сьвятых апосталаў Пятра й Паўла, дзе рэгулярна малілася праз 37 год.

Для беларускага грамадзтва ў Лёндане, нябожчыца была ведамая сваёй ахвярнасьцю. Мне на заўсёды запамяталася, калі паўстала ініцыятыва адзначаньня у 1962 годзе дваццацігодзьдзя сьмерці Янкі Купалы й мы зьвярнуліся да Магдалены Рыч і яе дачкі Веры — яны не толькі падтрымалі гэтую думку, але й узялі актыўны ўдзел у правядзеньні мастацкага вечара, які быў наладжаны дзьвюма арганізацыямі — ХАБР і ЗБВБ, пры удзеле Рычаў ды пісьменьнікаў і паэтаў Ангельскага Клюбу.

Пазьней таго-ж году Рычы памаглі беларусам Брадфору, наладзіць падобную імпрэзу. Апрача гэтага шмат дзе выступалі разам на дакладах аб Зьмітруку Бядулю ў 1966, Максіму Багдановічу ў 1967 ды Я. Купалу і Я. Коласа у 1982 годзе.

Калі у 60-тых гадох Вера працавала у Арганізацыі за правы Чалавека і Сям'і адчуваўся грашовы недахоп, то Магдалена Рыч паступіла на фізычную працу, каб толькі забяспечыць працяг працы Веры.

Ня раз нябожчыца выказвала надзею дажыць пары, калі Бел-Чырвона-Белы сьцяг будзе над Менскам. — Яна гэтага дачакалася.

Пахавальную службу выканаў а. А. Надсан у ассысьце а. К. Маскаліка. Пакойніца была шырока знаная і паважаная асобай аб чым сьведчыла прысутнасьць яе прыяцеляў на Багаслужбе ў капліцы Сьвятых Апосталаў Пятра й Паўла дня 30-га сьнежня. Разьвітальнае слова сказаў а. Надсан, у якім падзякаў нябожчыцы за яе дзейнае сужыцьцё зь беларусамі. Яна пакінула па сабе добрую памяць усім хто знаў яе.

На просьбу Веры, замест кветак былі зробленыя дары на Камітэт Дапамогі Ахвярам чарнобыльскай радыяцыі.

Шчырыя спачуваньні Веры.

**А. Зданковіч**

## СЬВ. ПАМЯЦІ НАДЗЯ ШАРАЕВІЧ

3-га студзеня 1992 году адыйшла на вечны супачнак Надзя Шараевіч, аб чым з глыбокім сумам паведамляюць сын Міхал і дочкі Параска, Кацярына, Матрона, Ніна й Ліда. Пахаваная разам з мужам на магільніку Чэнтэльгам у Адэляйдзе, Аўстралія.

Нарадзілася Надзя Шараевіч 26-га ліпеня 1900 году ў вёсцы Бухавічы, Жыткавіцкага раёну, Гомельскай вобласьці. Нябошчыца мела 16 унукаў і 24 праўнукаў. Належыла да БАП Царквы сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе. Адыход сьв. памяці Надзі Шараевіч гэта вялікая страта для дзяцей, унукаў і праўнукаў і для цэлае нашае парафіі.

Хай-жа будзе ёй вечная памяць!

**Парафіяльная рада**

### ПАДЗЯКА

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп. сп.: Ч. Найдзюк, А. Маркевіч, У. Бакуновіч, А. Кіпель, Т. Бэрд, В. Рамук, М. Швэдзюк, Я. Юхнавец, Б. Даніловіч, І. Бараноўскі, М. Баяроўскі, М. Раецкі, О. Грыцук, У. Акавіты.

## НА БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ Ў ПЭРЦЕ (ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ)

*Ахвярадаўцы:*

| | |
|---|---|
| Беларускі Культурна-Грамадзкі Клюб у Сыднэй | аўст. дал. 400.00 |
| М. Лужыцкі | 100.00 |
| М. Нікан | 20.00 |
| У. Шнэк | 20.00 |
| Б. В. Фронт | 20.00 |
| Г. Шайпак | 10.00 |
| А. Грыцук | 5.00 |
| А. Шнэк | 5.00 |
| Я. Стасевіч | 5.00 |
| М. Грэбень | ам. дал. 50.00 |

Усім ахвярадаўцам шчырае беларускае дзякуй!

**Міхась Раецкі**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана непасрэдна ў рэдакцыю (зь Нямеччыны)*

| | |
|---|---|
| В. Станкеіч | дм 100.00 |
| Л. Урбан | 50.00 |
| В. Лаеўская | 50.00 |
| К. Бандарук | 50.00 |
| А. Левіна | 50.00 |
| П. Смаршчок | 50.00 |
| П. Урбан | 300.00 |
| В. Фрэйдкін | 50.00 |
| Ю. Сяньскоўскі | 100.00 |
| | 800.00 |

Дар на помнік Івана Луцкевіча ў Вільні
П. Ганэцкі і А. Ганэцкая ам. дал. 200.00

*Атрымана ліста ахвярадаўцаў ад сп. У. Акавітага/Адэлайда, Аўстралія*

| | |
|---|---|
| А. Садоўскі | аўс. дал. 50.00 |
| Айц. М. Бурнос | 50.00 |
| др. У. Мілецэвіч | 50.00 |
| У. Акавіты | 50.00 |
| Э. Трысмакоў | 40.00 |
| П. Пачонка | 40.00 |
| Я. Рольсан | 30.00 |
| В. Зеленеўскі | 30.00 |
| А. Руткевіч | 30.00 |
| Разам | 370.00 |
| ам. дал. | 278.98 |

## АХВЯРЫ НА ФОНД БІНІМу

| | |
|---|---|
| Рада Беларускай Народнай Рэспублікі | ам. дал. 4,000.00 |
| Прыход Сьвятое Маці Жыровіцкае ў гор. Гайлянд Парк, Нью Джэрзі | 500.00 |
| Прыход Сьвятога Кірылы Тураўскага ў гор. Рычманд Гіл, Нью Ёрк | 200.00 |
| З. Смаршчок-Жэлязоўская (другі раз) | 100.00 |
| М. Прускі | 20.00 |
| Р. Завістовіч | 25.00 |
| Разам | 4,845.00 |

| | |
|---|---|
| В. Русак | аўстр. дал. 10 |
| З. Кадняк | 20 |
| Я. Стасевіч | 10 |
| М. Нікан | 50 |
| Г. Міхалюк (сын Нік) | 20 |
| У. Сідлярэвіч | 40 |
| У. Шнэк | 50 |
| В. Гушча | 50 |
| Разам | 250 |

# З РЭДАКЦЫЙНАЕ ПОШТЫ

**Гэральд Асьвяцінскі (Віцебск).** Дарагія супрацоўнікі газэты «Беларус», віншую Вас з Калядамі. Здароўя ўсім, моцы, шчасьця й посьпехаў у вашай пачэснай справе. Газэта вашая не залежваецца на маім стале. Думаю, у вас зьявяцца ўдзячныя карэспандэнты з нашага старажытнага гораду Віцебску. Прыміце шчырую падзяку за газэту «Беларус», асабліва таму, няведамаму мне, спадару, хто падпісаў «Беларуса» на маё імя.

**Ігар Бараноўскі (Берасьце)** На каталіцкае Раство ў берасьцейскім касьцёле пачала гучэць і беларуская мова. Кс. Зьбігнеў Кароляк (родам з Дарагічыня над Бугам) вёў імшу па-беларуску, а казаньні былі па-расейску й па-беларуску... Заўважу, што хоць кс. Зьбігнеў яшчэ цяжка, аднак па-беларуску ў яго атрымваецца лепш, чымся па-расейску.

У Кобрынскім раёне ў в. Оса йдзе будаўніцтва царквы. Ужо ўзьнесеныя сьцены й дах з купалам. Царква гэтая невялічкая, але ўнікальная. Старажылы сьцьвярджаюць, што ўзьведзеная яна каля 700 гадоў назад, а складзеная была не з пілаваных, а зь цёсаных сякерою бярвёнаў. А гэтыя бярвёны былі замацаваныя драўлянымі цьвікамі. У 50-ых гадох царква была зачыненая, багатае убранства некуды вывезьлі, а ў будынку зрабілі склад. Пазьней пры таямнічых абставінах царква згарэла. І вось на яе мейсцы зноў адбудоўваецца царква.

**Уладзімір Дзехцярук (Эстонія)** Наша Беларуска-Эстонскае зямляцтва, старшынёй якога я зьяўляюся, вельмі хацела-б атрымваць газэту «Беларус». Калі ёсьць у Вас жаданьне і магчымасьць дасылаць яе нам, дык мы будзем вельмі ўдзячныя.

**Юрка Асеньнік (Беласточчына).** Ужо некалькі гадоў, як маю гонар быць чытачом «Беларуса», за што вялікае вам дзякуй! Чым была для нас гэтая газэта ў гады ня гэтак яшчэ далёкія, гаварыць пэўна вам ня трэба.

Свайго часу пісалі вы пра «ФОС» (но. 383, кастр. 1991 — **рэд.**) аўтарамі якога былі Дарафей Фёнік, «Мікола Сахарэвіч» і я.

Зараз я студэнт першага курсу Праваслаўнага Тэалягічнага Інстытуту Сьв. Сяргея ў Парыжы. «Зямля чужая не сагрэе, таго хто любіць родны край...» Дзякуй Богу, што ёсьць да каго адазвацца на роднай мове. Вучыцца тут яшчэ адзін беластаччанін Андрэй Лузьма... Заплаціць за рэгулярную падпіску «Беларуса» магчымасьці ня маю, але калі-б магчыма было атрымаць часам нейкі нумар, будзем вельмі ўдзячныя...

**Юрай Міхно (Стоўпцы).** Маладзёжнай арганізацыяй «Выбранецкія шыхты» утвораная сёлета музычная служба «Галс», якая мае на мэце зьбіраньне, перахоўваньне ды распаўсюджаньне беларускае музыкі розных кірункаў у форме аўдыё-ці відэазапісаў для стварэньня музычнага інфармацыйнага банку ды архіву.

Калі вы маеце нейкія прыватныя зборы — падзяліцеся з намі. З запісамі просім дасылаць і падрабязныя зьвесткі пра гэтыя творы (выканаўца, год запісу, назоў альбому, песьняў, фірма, якая зрабіла запіс, і г.д.) Мы чакаем вашых лістоў. Адкажам на ўсе вашыя пытаньні і дашлем нашыя музычныя каталёгі.

Наш адрас: Выбранецкая музычная служба «Галс»
Беларусь
222660 м. Стоўпцы, Менская вобл.
вул. Цітава 12-1

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Б. і А. Даніловіч (У першую гадавіну сьмерці дарагога сына Эдварда) | ам.дал. 200.00 |
| А. Тэлеш | 120.00 |
| М. Ганько | 100.00 |
| М. Сьнежка | 100.00 |
| А. Абрамчык | 60.00 |
| П. Пашкевіч | 50.00 |
| Л. Літаровіч | 50.00 |
| М. Кухарчык | 40.00 |
| А. Непейн | 30.00 |
| А. Протас | 30.00 |
| П. Бурдзь | 30.00 |
| Г. Дубяга | 25.00 |
| М. Олійнык | 25.00 |
| Л. Стагановіч | 25.00 |
| У. Бычкоўскі | 25.00 |
| Я. Чорны | 25.00 |
| Л. Корчык | 25.00 |
| М. Тулейка | 20.00 |
| В. Пашкевіч | 20.00 |
| А. Владыка | 20.00 |
| В. Цярпіцкі | 20.00 |
| Разам | 1040.00 |

*Прыслана безпасярэдня ў рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| В Станкевіч | ам. дал. 500.00 |
| Абвестка | 300.00 |
| С. Карніловіч | 150.00 |
| Н. Арсеньева | 100.00 |
| О. Грыцук | 100.00 |
| Фундацыя Крэчэўскага | 50.00 |
| А. Чарнэцкая | 50.00 |
| Я. Каханоўская | 50.00 |
| І. Касьцюкевіч | 50.00 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 50.00 |
| М. і В. Махнач | 50.00 |
| К. і М. Верабей | 50.00 |
| В. Навіцкі | 50.00 |
| В. Богдан | 50.00 |
| П. Барысік | 50.00 |
| В. Казлоўскі | 40.00 |
| А. Філістовіч | 40.00 |
| А. і С. Пілецкі | 40.00 |
| М. Чупракоў | 40.00 |
| В. Ільшчук | 40.00 |
| Ю. Рэпэцкі | 40.00 |
| О. Арэхва | 30.00 |
| Я. Сымчык | 30.00 |
| М. Кумейша | 30.00 |
| М. Палюховіч | 30.00 |
| К. і Я. Вініцкія | 30.00 |
| В. Валаткевіч | 30.00 |
| С. Шабовіч | 30.00 |
| БАЗА Каліфорнія | 25.00 |
| В. Пелеса | 25.00 |
| С. Грамыка | 25.00 |
| С. Дудар | 25.00 |
| Н. Кіт | 25.00 |
| Ч. Найдзюк | 20.00 |
| Ф. Бартуль | 20.00 |
| В. Рамук | 20.00 |
| Э. Маркоўская | 10.00 |
| С. Стаськевіч замест кветак на магілу сп. П. Трысмакова | 30.00 |
| А. Чарнэцкая | 50.00 |
| Згурт. Бел. у Вял. Брыт. | анг. фунт. 100.00 |
| Разам | 2345.00 |

**Ніжэй падаецца ліста ахвяраў з папярэдняга нумару «Беларуса» з папраўленым загалоўкам:**

*Беларускае Аб'еднаньне ў Заходняй Аўстраліі (Марыя Мароз)*

| | |
|---|---|
| А. Ніжнік | аўстр. дал. 10.00 |
| М. Раецкі | 10.00 |
| А. Раецкі | 20.00 |
| В. Раецкі | 20.00 |
| М. Раецкі, малодшы | 50.00 |
| М. Мароз | 50.00 |
| А. Мароз | 50.00 |
| Др. А. Бразоўскі | 50.00 |
| | 260.00 |

| | |
|---|---|
| М. Лужынскі (Сыднэй) | 104.00 |
| М. Зуй (Аўстралія) | 20.00 |

Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўніком шчыры дзякуй!

**Адміністрацыя «Беларуса»**